ХТО Ў БЕЛАРУСІ



САМЫ "КРУТЫ" ЧЫНОЎНІК?

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

"ДЗІЦЯЧАЯ" ДАПАМОГА:



ПЛЮС 5 ДОЛАРАЎ

СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

3.05.12-9.05.12 г.

# ПРЫВАТНЫ ТАНЕЦ

## Маёмасць беларускага народа распрадаецца цішком




*А куды можна?*

Аляксандр Лукашэнка зноў змяніў правілы гульні ў прыватызацыі: раней ён увёў спісы прадпрыемстваў, якія падлягаюць раздзяржаўленню, цяпер — адмяніў. Афіцыйная матывацыя простая: мы можам прадаць што заўгодна, абы грошы прапанавалі добрыя.

### НЯМА НА ШТО РАЗЛІЧВАЦЬ

Сапраўды, пасля таго як адна са "свяшчэнных кароў" — "Белтрансгаз" — цалкам перайшла пад кантроль расіян, чакаць можна чаго хочаш. Раней ці пазней, аднак маштабная прыватызацыя ў Беларусі непазбежная. Пытанне толькі ў тым, як яна будзе ажыццяўляцца.

Дзеянні ўлад сведчаць пра тое, што простаму люду няма на што разлічваць. Шараговым грамадзянам прапануюцца "лахатроны" кшталту "народнага IPO". Першы такі праект якраз стартаваў днямі — насельніцтву прапанавалі набыць акцыі мінскага завода пеністых він.

> "Цяпер жа прадаць можна любы завод у любы момант і на любых умовах. Якая ўрадлівая глеба для карупцыі, з якой нібыта ўжо 18 год змагаецца Лукашэнка!"

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі піярылі гэтае прадпрыемства як прыбытковае і з вялікім патэнцыялам: маўляў, грашам цяжка знайсці лепшае ўжыванне, чым набыць акцыі МЗПВ. Аднак замоўчвалася іншае. Як падлічыла агенцтва фінансавых навін, прыбытак ад продажу акцый завода складзе ў 2012 годзе ўсяго 2,62%. Гэта значна ніжэй і за ўзровень інфляцыі, і за адсотак па банкаўскіх укладах. Таму замест дывідэндаў акцыянер МЗПВ, хутчэй, атрымае страты. Прынамсі, у кароткачасовай перспектыве.

Беларусы таксама адчулі, што іх дураць. У выніку арганізатары першага "народнага IPO" замест запланаванага 41 мільярда рублёў атрымалі толькі 717 мільёнаў (1,7%).

### РОЛЯ ШЫРМЫ

Гісторыя з заводам пеністых він адыгрывае ролю шырмы для рэальных прыватызацыйных здзелак. Сапраўды смачныя кавалкі пірага дзеляцца цішком.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## УС САБРАЎ 300 ЧАЛАВЕК

Дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы па змяненні выбарчага заканадаўства будуць перададзеныя ў Цэнтрвыбаркам да 20 мая. Пра гэта паведаміў кіраўнік групы кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Дзмітрый Ус 3 мая на прэс-канферэнцыі ў Мінску, паведамляе БелаПАН.

Паводле яго слоў, сход ініцыятыўнай групы прайшоў 1 мая «ў поўнай адпаведнасці з беларускім заканадаўствам». «Мы чатыры разы звярталіся ў Мінгарвыканкам па дазвол на правядзенне сходу. Але кожны раз нам адмаўлялі. Тым не менш, абавязковага дазволу на правядзенне сходу ініцыятыўнай групы закон не патрабуе», — сказаў ён.

Ус паведаміў, што сход ініцыятыўнай групы праходзіў у Мінску на пляцоўцы перад будынкам па вуліцы Наватарскай. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел 151 чалавек з 300 членаў ініцыятыўнай групы.

Ініцыятыўная група мае намер унесці ў выбарчае заканадаўства наступныя папраўкі: даць кандыдатам у прэзідэнты і дэпутаты права на ўключэнне іх прадстаўніка ва ўчастковыя выбарчыя камісіі; абавязаць выбарчыя камісіі пры падліку галасоў выстаўляць на агляд назіральнікаў кожны бюлетэнь; даць права кожнаму члену ўчастковых камісій ставіць свае подпісы на выбарчых бюлетэнях.

# ШТО МОЖНА ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ НА СЁННЯШНЮЮ ПЕНСІЮ?

"Тут і цяпер" даведвалася ў вядомых і не вельмі людзей, што сабой уяўляе сённяшняя пенсія для большасці беларусаў.




*Такога спакою няма*

**АЛЯКСАНДР САСНОЎ, БЫЛЫ МІНІСТР ПРАЦЫ:**
### "ЯКАЯ ЭКАНОМІКА, ТАКАЯ І ПЕНСІЯ":

— Жыць на гэтую пенсію немагчыма, але існаваць можна. А што тычыцца яе памеру... Якая эканоміка, такая і пенсія. Я сабе шмат чаго не дазваляю: не магу дазволіць, напрыклад, зрабіць рамонт у кватэры, адсвяткаваць юбілей. Грошы ёсць толькі на існаванне. Шмат чаго з адзення застаецца ад дзяцей, яго і даношваю. Пра лекі ўвогуле не кажу: многія з іх проста немагчыма набыць без дапамогі дзяцей. А так мне яшчэ пашанцавала са здароўем.

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**
### "ПАНЯВОЛЕННЕ ЖАБРАЦТВАМ – САМАЕ СТРАШНАЕ".

— Тут і казаць не трэба, што ў горадзе гэтай пенсіі не хапае для існавання больш-менш цывілізаванага чалавека. Я проста на пенсію яшчэ і не жыў. Хоць я яе і атрымліваю, усё роўна шукаю падпрацоўку і з жахам думаю пра тое, што гэтая праца будзе гады ў рады. Нават не ўяўляю, як псіхалагічна перабудуюся на гэтыя грошы. Зразумела, што іх хапае толькі на тое, каб не памерці. Але на паўнавартаснае жыццё іх адназначна не стае. Ці правільна гэта? Канечне, правільна. Калі людзі, працуючы ў правінцыі, атрымліваюць паўтара мільёна (а калі два з паловай, дык гэта ўжо вельмі добра), то якой можа быць пенсія?! Іншая рэч, што ўся наша сістэма заробкаў і пенсій бясспрэчна арыентуецца на мінулае. Тут нават прасочваецца палітычная задума — не даваць людзям багацець. Заможны, упэўнены ў сабе чалавек больш вольна ставіцца да таго, што робіцца ў краіне. А калі ты паняволены жабрацтвам, а гэта самае страшнае паняволенне, то пра якую палітычную волю можна казаць? Уласна, і наш палітычны лад, і лёс нашай дэмакратыі залежаць у першую чаргу ад таго, ці зможам мы, насуперак уладам, набыць не толькі маёмасць, але і фінансавую самадастатковасць, для таго каб "людзьмі звацца".

**ГАННА ГУЧОК (В.ЛЯЎКІ, СТАРАДАРОЖСКІ РАЁН):**
### "МЫ Ў РАІ ЗАРАЗ ЖЫВЁМ".

— Вы, маладыя, не ўяўляеце, як нам пашанцавала! Мы ў раі жывём, калі параўноўваць з нашымі дзядамі. Гэта ж ні араць не трэба, каб хлеба здабыць, ні ткаць, каб якую кашулю справіць, ні карову трымаць, каб малака напіцца. Нічога рабіць не будзеш, а табе яшчэ грошай бясплатна дадуць! Ідзі ў краму і купляй, што хочаш: хлеб, віно. Ды ў якія часы такое дзіва было? Толькі пры Лукашэнку, дай Бог яму здароўя!

**ДА ВЕДАМА**

**У Беларусі з 1 мая павялічыліся памеры ўсіх відаў пенсій, надбавак, павышэнняў, таксама выраслі даплаты да пенсій пенсіянераў ва ўзросце 75 гадоў і старэй, якія не працуюць, паведамляе БелТА.**

**З улікам новай велічыні БПМ памер даплаты да пенсій пенсіянераў, якія дасягнулі ўзросту 75 гадоў і не працуюць, з мая складае 139,3 тыс. беларускіх рублёў; тых, што дасягнулі ўзросту 80 гадоў, — 185,8 тыс.**

**Увогуле сярэдняя пенсія па ўзросце, павялічыцца на 16,9% да 1млн 467,5 тыс. рублёў. На 1 красавіка атрымальнікамі пенсій розных відаў у органах па працы, занятасці і сацабароне з'ўляліся 2 млн 485,3 тыс. чалавек.**

**ЛЕАНІД ЗАІКА, ЭКАНАМІСТ:**
### "ГЭТА СРОДАК ДЛЯ ПАСТУПОВАГА ПАМІРАННЯ".

— Разлікі паказваюць наступнае: на ўтрыманне бяздомнага сабакі выдаткоўваюць 20 тысяч рублёў у дзень, прафесар філасофіі атрымлівае 40 тысяч рублёў у дзень. Значыць, адзін прафесар роўны двум сабакам. Гэта ўнікальныя суадносіны, якія зараз маюць месца ў Беларусі. А тое, што вяскоўцы задаволены, сведчыць толькі пра іх вельмі вузкі жыццёвы кругагляд — яны не ўяўляюць, як жывуць суседзі. Напрыклад, у суседняй Украіне пенсія прафесара складае 700 долараў, а ў нас роўная кошту прадуктаў на дзень для двух бяздомных сабак. Але сабака кілаграм 30 важыць, прафесар жа — усе 70. Сабака жыве ў будцы, а ў прафесара кватэра павінна быць. Гэта ганьба для краіны! Пенсіі, якія разлічаны такім чынам, — гэта сродак для паступовага паміраня. Да шасьцідзесяці пяці гадоў дажываюць толькі 48 працэнтаў мужчын, І што прэм'ер-міністру ці міністру працы да тых няшчасных пенсіянераў?.. Таму беларуская норма жыцця — два сабакі.

**АНДРЭЙ ПЛЯСАНАЎ, МАСТАК І МУЗЫКА:**
### "НА ТРЫ ГАДЗІНЫ ПЕНСІІ ХАПАЕ ЛЁГКА".

— Шмат чаго магу: купіць гарэлкі, некалькі боханаў хлеба. Ды да фіга чаго магу! Магу купіць зубную пасту, ажно тры цюбікі. Ну і мяса пару кілаграм. Вельмі добрая пенсія! На тры гадзіны яе хапае лёгка. Калі б я не працаваў, то з голаду б не памёр: хадзіў бы часцей у госці — кілішак гарэлкі ў таго, кілішак — у другога. Вытрымаў бы. І потым, у нас жа людзі нармальныя. У пераходзе можна спяваць — грошай дадуць. Можна пражыць. Вось калі б я плаціў за паліва, гарачую ваду і жыллёва-камунальныя паслугі так, як у Еўропе, то тады б быў гамон — я б з голаду памёр сто працэнтаў. А так нам яшчэ пашанцавала: пенсія маленькая, але затраты на камунальныя паслугі таксама малыя.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ПРЫВАТНЫ ТАНЕЦ

Адным з прыкладаў гэтага з'яўляецца завод "Белвар". На 1 студзеня 2011 года балансавы кошт названага прадпрыемства складаў каля 20 мільёнаў долараў, рынкавая цана — больш за $40 мільёнаў. А прадалі яго, паводле "Белгазеты", за 315 мільёнаў... беларускіх рублёў. Па кошце прахадной завода. Ды не абы каму прадалі, а вядомаму прадпрыемству "Амкадор", якім кіруе блізкі да Аляксандра Лукашэнкі сенатар Аляксандр Шакуцін. Той самы, які разам са сваёй пратэжэ Алёнай Ланской аскандаліўся падчас беларускага адбору на "Еўрабачанне-2012".

Вось такі атрымаўся "прыватны прыватызацыйны танец" — для сваіх. І, як казаў герой калісьці знакамітага рэкламнага роліка "МММ": "Марина, и это только начало!"

Скасаванне спісу прадпрыемстваў, якія ў планах на раздзяржаўленне, садзейнічае ценявой прыватызацыі на карысць чыноўнікаў і блізкіх да іх бізнесоўцаў. Калі б існаваў пералік, напрыклад, з 18 прадпрыемстваў, то адсачыць, што з імі адбываецца, было б прасцей. Цяпер жа прадаць можна любы завод у любы момант і на любых умовах. Якая ўрадлівая глеба для карупцыі, з якой нібыта ўжо 18 год змагаецца Лукашэнка!

## І ЎЛАДУ ТАКСАМА

Зрэшты, Беларусь цалкам прыватызавана цяперашнім кіраўніком дзяржавы. І ўладу, зямлю, і прадпрыемствы, і нават жыхароў краіны Лукашэнка разглядае як сваю уласнасць. Адпаведна, і распараджаецца ўсім гэтым дабром "по понятиям": што захачу, то і прадам ці падару.

Гэта непазбежны вынік маўклівай згоды грамадства з усім, што вырабляе ўлада пачынаючы з 1994 года. У выніку дзяржаўная маёмасць будзе размеркавана ў інтарэсах вузкага кола высокапастаўленых асоб ды іх сябрукоў-партнёраў. А народу адведзена роля мядзведзя з вядомай казкі, якому перападалі то вяршкі, то карэньчыкі, а калі і вяршкі, і карэньчыкі разам, то яны былі непрыдатныя для ўжывання...

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# БЕЛАРУСЫ ПРАЯДАЮЦЬ АМАЛЬ ПАЛОВУ СВАІХ ГРОШАЙ

## У літоўцаў на прадукты ідзе чвэрць выдаткаў, у расейцаў — траціна, сцвярджае kp.by .

Немцы ядуць тое самае, што і беларусы, але трацяць на тое нашмат меншую частку сваіх заробкаў.

Нядаўна аналітыкі з расійскага РІА «Навіны» склалі своеасаблівы рэйтынг краін па выдатках на харчаванне. Чым больш жыхары нейкай дзяржавы трацяць на ежу, тым больш нізкі радок у рэйтынгу яны займаюць.

Беларусь у рэйтынгу апынулася амаль у самым хвасце. А ўсё таму, што, паводле дадзеных на канец мінулага года, больш за 40% усіх нашых выдаткаў - гэта выдаткі на ежу. Выйшла, што на прадукты мы трацім ў два разы больш за палякаў і ў тры разы больш за лідараў рэйтынгу - люксембуржцаў. Затое мы абагналі украінцаў.

Справа ў тым, што ў Беларусі заробкі нізкія, а прадукты каштуюць амаль столькі, як і ў суседніх краінах. Розніца ў цэнах складае на сёння ў сярэднім працэнтаў 20–30, а вось даходы ў Беларусі ў 2–3 ніжэйшыя, чым у Літве, Польшчы да нават Расіі.



*І свінкі-капілкі мала*

**КАМЕНТАР ЭКАНАМІСТА**

### «ЧЫМ БОЛЬШЫ ПРЫБЫТАК, ТЫМ МЕНШ ІДЗЕ НА ЕЖУ»

— Доля расходаў на харчаванне лічыцца адным з індыкатараў узроўню жыцця, — тлумачыць эканамістка Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Кацярына Барнукова. — Прынята лічыць, што пры росце зарплаты выдаткі на харчаванне растуць павольней, і атрымліваецца, што той, у каго прыбытак вышэйшы, траціць на харчаванне меншую долю сваіх даходаў. Так выходзіць таму, што выдаткі на харчаванне — выдаткі першай неабходнасці, і яны не асабліва змяняюцца ў залежнасці ад узроўню прыбытку.

**ЯКУЮ ДОЛЮ СЯМЕЙНАГА БЮДЖЭТУ «З'ЯДАЮЦЬ» У РОЗНЫХ КРАІНАХ**

Люксембург - 14,1%
Вялікабрытанія - 17,3%
Германія - 14,6%
Швецыя - 15,7%
Францыя - 17,6%
Італія - 21,4%
Чэхія - 19,3%
Польшча - 20,4%
Літва - 25,2%
Расія - 32,1%
Беларусь - 41,3%
Украіна - 50%

*Доля выдаткаў хатніх гаспадарак на харчаванне ў агульнай колькасці спажывецкіх выдаткаў. Уключаны выдаткі на куплю прадуктаў і харчаванне па-за домам. Паводле звестак РІА «Навіны».*

**КОЛЬКІ Ў БЕЛАРУСІ ТРАЦІЛІ НА ЕЖУ Ў РОЗНЫЯ ГАДЫ**

2011 год - 41,3%
2010 год - 39,0%
2009 год - 40,2%
2005 год - 44,6%
2000 год - 59,6%
1995 год - 61,6%

*Паводле дадзеных Белстата, доля спажывецкіх расходаў хатніх гаспадарак на харчаванне.*

**ВОЛЬГА АНЦІПЕНКА**

# ХТО Ў БЕЛАРУСІ САМЫ "КРУТЫ"

Адказ на гэтае пытанне неўзабаве будзе ведаць прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч: у сярэдзіне красавіка ён падпісаў пастанову аб рэйтынгавай ацэнцы дзейнасці кіраўнікоў.



Абсурд

У першай дэкадзе мая павінен быць праведзены разлік рэйтынгаў.

## ЛЕПШ БЫ ПРЫГЛЯДЗЕЦЦА ДА ДАХОДАЎ

Рэйтынгавая ацэнка ўводзіцца ў дачыненні да 15 органаў дзяржкіравання і іншых арганізацый, якія падсправаздачныя ўраду. Крытэрыі даволі сур'ёзныя. Так, пры вызначэнні эфектыўнасці работы будуць улічвацца такія паказчыкі, як развіццё прамысловай вытворчасці, інвестыцыйная, знешнеэканамічная і фінансавая дзейнасць, зніжэнне колькасці выдаткаў на вытворчасць прадукцыі, эфектыўнасць выкарыстання дзяржмаёмасці, сацыяльная сфера.

Губернатараў ацэняць па паказчыках развіцця сельскай гаспадаркі, узроўні развіцця будаўніцтва і сферы паслуг, узроўні і якасці жыцця насельніцтва і інш.

Праўда, эксперты, да якіх "Тут і цяпер" звярнулася з просьбай ацаніць ідэю, лічаць, што большую цікавасць выклікаў бы рэйтынг даходаў чыноўнікаў усіх масцей.

**ЭКСПЕРТЫЗА**

## КУДЫ ПАДЗЬМЕ ВЕЦЕР

**Былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір** да ідэі рэйтынгавай ацэнкі кіраўнікоў ставіцца вельмі скептычна.

"Я яе не ўспрымаю і не разумею, — кажа ён. — Мы ацэньвалі працу чыноўнікаў наступным чынам: якія паказчыкі ў прамысловасці, так і працуюць, напрыклад, Мінпрам і міністр. Так і па іншых ведамствах — ёсць паказчыкі, але ёсць і асаблівасці. Напрыклад, сёння ў Брэсцкай вобласці засуха, а заўтра — дажджы. Паказчыкі падаюць. Рэйтынг кіраўніка не павінен залежаць ад такіх фактараў, як, напрыклад, надвор'е".

**Прафесар сацыялогіі Алег Манаеў** пахваліў ініцыятыву прэм'ера, аднак засумняваўся, што яе вынікі змогуць на нешта паўплываць.

"Як навуковец, які мае дачыненне да сацыялогіі і статыстыкі, ведаю, што любая сфера жыцця нашага грамадства патрабуе пэўнай квантыфікацыі*, — выказвае свае думкі Манаеў. — Мы да гэтага не прывыклі, у нас заўсёды ўсё было вельмі прыкладна. Таму разнастайныя справаздачнасці, пачынаючы з савецкіх часоў, мелі такі неверыфікаваны, няўлоўны характар — іх цяжка было праверыць. Таму любы пераход на колькаснае вымярэнне эфектыўнасці работы дзяржаўных органаў — гэта, несумненна, плюс. І інвестыцыі, і эфектыўнасць працы ў канкрэтных паказчыках дазволяць "прамацаць" працу канкрэтнага ведамства і самых розных людзей.

Іншае пытанне, што такая колькасная квантыфікацыя ў нашай канкрэтнай сістэме дасць няшмат. Напрыклад, параўноўваюць працу двух міністэрстваў: ведамства А атрымала больш інвестыцый, чым ведамства Б. Але з улікам планавай дзяржаўнай эканомікі гэтыя паказчыкі не раскрываюць механізмаў працы. Напрыклад, аб'явілі тэндар. Выйграе нейкае прадпрыемства, але на самай справе мы ведаем, што ніякіх сапраўдных тэндараў — рэальнай канкурэнцыі — не адбываецца. Усё вырашаюць тыя, хто знаходзіцца бліжэй, скажам, да мясцовых улад. Таму сістэма рэйтынгавання кіраўнікоў нічога не ламае. І я мяркую, што ўвядзенне колькасных паказчыкаў, якія характарызуюць працу дзяржорганаў, будзе проста надаваць бачнасць, хто больш электраэнергіі зэканоміў і гэтак далей. А ў выніку гэта прывядзе да таго, што быццам бы прывабная ініцыятыва будзе больш маскіраваць рэальную рэчаіснасць, чым выяўляць недахопы і дапамагаць прымаць правільныя рашэнні. На мой погляд, верагоднасць гэтага вельмі высокая".

**АФІЦЫЙНА**

## КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЮЦЬ ЧЫНОЎНІКІ?

*"Абсалютна не згодзен з тым, што ў нас ва ўрадзе жывадзёры, якія атрымліваюць вялікія заробкі. Я і так іх трымаў у вожыкавых рукавіцах. У самыя лепшыя часы, да крызісу, прэм'ер-міністр у нас атрымліваў тры з паловай тысячы долараў,* — сказаў Лукашэнка на прэс-канферэнцыі напрыканцы снежня 2011 года. — *Цяпер тое ж самае. У сэнсе, зарплата ў беларускіх рублях засталася тая ж самая плюс вось гэтыя павышэнні ў 15—20%, якія былі. А калі перавесці па цяперашнім курсе, то гэта ў два разы менш".*

## БЮРАКРАТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ

**Былы начальнік галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі** называе гульні з рэйтынгамі бюракратычнымі і лічыць, што яны падмяняюць рэальную работу па паляпшэнні якасці работы кадраў.

"Бясспрэчна, гэта пустая фармалістыка, — выказвае сваё меркаванне Пласкавіцкі. — Што наогул да крытэрыяў і ацэнак, то ў нас іншая псіхалогія: мы да гэтага не прывучаны. Напрыклад, у ЗША вельмі любяць вызначаць, хто першы вучань па прадмеце, хто другі. У гэтым ёсць карысць: ствараецца канкурэнтная сітуацыя, але яна магчыма ў тым выпадку, калі ў грамадстве з самага дзяцінства фарміруецца канкурэнтнае асяроддзе, калі спаборніцтва ўспрымаецца не як спроба прынізіць тых, хто прайграў, а як здаровая гульня. Гэта павінна быць вельмі натуральным. А ў нас вельмі не любяць, калі хтосьці высоўваецца. І калі пачнуць выстаўляць такія рэйтынгі, то будуць старацца маляваць іх прыкладна на адным узроўні, каб нікога не пакрыўдзіць і не падставіць. У нас жа ёсць і прэміі, і надбаўкі ў дзяржапараце, часам прэміі даюць за асаблівыя заслугі — да гэтага ставяцца абыякава. Але калі раптам каму-небудзь пастаянную надбаўку ўсталююць, то столькі зайздрасці ўзнікае!..

Таму гэтая ацэнка ператворыцца ў чарговую гульню. Замест таго, каб займацца справай, дамагацца паляпшэння якасці працы, будуць гуляць у гэтую бюракратычную гульню і ствараць бачнасць працы".

## ХТО БЛІЖЭЙ ДА ПРЭЗІДЭНТА, У ТАГО І РЭЙТЫНГ ВЫШЭЙШЫ?

**Фінансавы аналітык Павел Сталярскі** лічыць, што дзейнасць некаторых ведамстваў павінны ацэньваць незалежныя эксперты і грамадскасць.

"Ідэя складання рэйтынгу чыноўнікаў сама па сабе надзвычай добрая, — кажа эксперт. — Але наколькі яна

# ЧЫНОЎНІК?

## ТЫМ ЧАСАМ

**Актывісты грамадзянскай кампаніі «Наш дом» пару гадоў таму склалі неафіцыйны рэйтынг гарадскіх чыноўнікаў, вызначыўшы самых запатрабаваных, эфектыўных і «непрабіўных».**

Па выніках перапіскі з чыноўнікамі розных узроўняў былі ўстаноўлены знакавыя для актывістаў асобы гарадскога маштабу і ступені іх удзелу ў вырашэнні тых праблем, з якімі да іх звярталіся. У выніку, з больш чым 30 службовых асоб, якія прадстаўлялі ўсе раёны Гомеля, а таксама многія яго структурныя падраздзяленні, самым запатрабаваным аказаўся генеральны дырэктар КПУП «Гомельская гарадская ЖКГ» Ігар Каршакоў.

У намінацыі «Самы непрабіўны чыноўнік» пальма першынства дасталася першаму намесніку кіраўніка адміністрацыі Навабеліцкага раёна, на другім месцы — санітарны ўрач горада.

будзе рэалізавана ў беларускіх умовах? І ці можна верыць тым лічбам, якія ўсё роўна будзе маляваць статыстыка?

І потым, аб якім рэйтынгу чыноўнікаў можна казаць, калі тых жа губернатараў не выбіраюць, а прызначаюць на пасады? Ці не атрымаецца так, што той, хто бліжэй да прэзідэнта і ходзіць у яго ў любімчыках, у таго і рэйтынг вышэйшы?

Працу чыноўнікаў павінны ацэньваць незалежныя эксперты і грамадскасць, а вынікі такой прынцыповай ацэнкі павінны ўплываць на аплату працы служачых".

## А ЯК У ІХ

Вопыт укаранення стандартаў менеджменту якасці і сертыфікацыя дзяржорганаў ёсць у многіх развітых краінах. Татальна сертыфікавана, пачынаючы з федэральных органаў улады і да апошняга муніцыпалітэта, Японія.

У **ЗША** спецыяльна для органаў дзяржаўнай улады на ўзроўні прэзідэнта існуе нацыянальная прэмія ў галіне якасці.

А ў **Расіі** складаюць рэйтынг прадстаўнікоў улады, чый сямейны даход перавышае мільён долараў.

"Рэйтынгі даходаў чыноўнікаў карысталіся б папулярнасцю і ў Беларусі, — лічыць экс-прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. — Людзям заўсёды было цікава зазірнуць у чужую кішэню".

"У нас гэтак жа, як і ў Расіі, усе чыноўнікі падаюць дэкларацыі аб даходах, — каментуе Аляксандр Пласкавіцкі. — Той рэйтынг, які зараз збіраецца ўвесці ўрад, вы пераносіце ў плоскасць матэрыяльную, ды яшчэ самую скандальную. Так, я згодны: нашы людзі вельмі цікавяцца прыбыткамі чыноўнікаў, але я думаю, што ў гэтым выпадку ў нас расійскага эфекту не будзе — у Беларусі абсалютная большасць чыноўнікаў насамрэч даволі бедныя людзі. У нашай краіне надзвычай мала магчымасцей для таго, каб кагосьці абдзіраць: прыбытковых вытворчасцей практычна няма…".

## ДА ВЕДАМА

Квантыфікацыя* -- звядзенне якасных характарыстык да колькасных для наступнага этапу -- вымярэння, т. е. надання выніку колькаснага значэння.

**МАРЫНА МІТ**




*Схему разумеем*

Ці выйдуць палітзняволеныя на свабоду па амністыі, будзе залежаць ад юрыдычных фармулёвак гэтага прававога акта.

# У ЧАКАННІ АМНІСТЫІ

Верагодна, да Дня Незалежнасці на волю па амністыі выйдзе некалькі тысяч чалавек. Такую заяву днямі зрабіў кіраўнік краіны. Але як паведамілі Еўрарадыё, у Камісію па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў на разгляд праект закона "Аб амністыі" яшчэ не прыходзіў.

**Палата прадстаўнікоў:** *"Пакуль што і блізка мы яго не бачылі і не чулі. Мы чакаем, канешне, але пакуль што яго няма".*

Веснавая сесія дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў працягнецца да 30 чэрвеня. І як паведамілі Еўрарадыё ў прэс-службе беларускага парламента, дата апошняга пасяджэння да гэтага часу не прызначаная. Такім чынам, і парламентарыі, і сенатары маюць магчымасць паспець ухваліць праект закона "Аб амністыі" да 3 ліпеня, сцвярджае праваабаронца Гары Паганяйла.

**Гары Паганяйла:** *"Тое, што яго да гэтага часу няма ў выглядзе праекта ў Палаце прадстаўнікоў... Гэта ў нас хутка робіцца: прэзідэнт дашле яго туды, укажа, што гэты законапраект павінен прайсці па хуткай працэдуры, і цягам аднаго тыдня ён будзе праведзены праз усе слуханні і ў Палаце прадстаўнікоў, і ў Савеце Рэспублікі. І ён хуценька яго падпіша".*

А вось прагназаваць, хто з палітзняволеных мае шанец па гэтай летняй амністыі выйсці на волю, праваабаронца асцерагаецца. Згодна з яго назіраннямі, кожны новы закон "Аб амністыі" нечым адрозніваецца ад папярэдніх: як тым, на асуджаных па якіх артыкулах ён не распаўсюджваецца, гэтак і тым, для якіх асуджаных робіцца выключэнні.

**Гары Паганяйла:** *"Цяжка сказаць, што ў дадзеным выпадку заканадаўца ўкажа ў гэтым акце. Былі розныя варыянты раней. Да прыкладу, указвалася, што амністыя не тычыцца тых, хто не сплаціў запазычанасць па прысудзе суда. Альбо — не стаў на шлях выпраўлення, ёсць і такая характарыстыка. Гэты тыя, хто быў пакараны ў дысцыплінарным парадку, але да каго прымянялі ШЫЗА. А такія сярод нашых сядзельцаў ёсць, і яны не могуць быць амніставаныя. Альбо могуць быць указаныя тыя злачынствы, на якія не распаўсюджваецца амністыя. У прыватнасці, за арганізацыю масавых беспарадкаў у адносінах да асуджаных за масавыя беспарадкі".*

А гэта азначае, што ў экскандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, які асуджаны за "масавыя беспарадкі" і да гэтага часу "не стаў на шлях выпраўлення", шанцаў на амністыю мала. Тое ж тычыцца і частага наведвальніка ШЫЗА Зміцра Дашкевіча.

Мала шанцаў на амністыю і ў Алеся Беляцкага, якому, як нечакана высветлілася, неабходна дадаткова сплаціць дзяржаве "пеню" ў суме 140 266 151 рубель і дзяржаўнае мыта 7 013 307 рублёў. І гэта ў дадатак да тых амаль 758 мільёнаў рублёў, якія праваабаронцу прысудзілі першапачаткова і што ўжо сплачаныя.

У любым выпадку, упэўнены Гары Паганяйла, хто выйдзе на волю альбо каму палегчаць рэжым адбыцця пакарання, залежыць ад таго, як будуць прапісаныя нормы закона "Аб амністыі". Але не выключае і таго, што асобныя нормы закона будуць сфармуляваны такім чынам, што канкрэтны чалавек, які фармальная мог разлічваць на амністыю, пад яе ў выніку не патрапіць.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# "ДЗІЦЯЧАЯ" ДАПАМОГА:

З 1 мая ў Беларусі павысіўся памер дзяржаўнай дапамогі сем'ям, што выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 3 год. Павелічэнне склала, як бадзёра адрапартавала ўпраўленне народанасельніцтва, гендарнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, 5,1%.

У грашовым вымярэнні гэта будзе 743 020 рублёў супраць ранейшых 706 880. Няцяжка падлічыць, што прыбаўка склала 36 140 рублёў. Што можна набыць для дзятвы на гэтыя "шалёныя" грошы, **"Тут і цяпер"** прыкідвала разам з маладымі бацькамі з розных рэгіёнаў.

## "ХАЦЯ Б НЕ АБ'ЕСЦІСЯ"

*"Што, праўда дапамога на дзяцей вырасла?* — перапытвае жыхарка Нясвіжа **Вольга**, **маці 6-месячнага Лёшы**. — *Дробязь, а прыемна. Толькі хто ж ведаў, што настолькі дробязь?.. Нічога, нам хоць на новую пустышку хопіць: у аптэцы яна якраз 36 тысяч каштуе, і гэта яшчэ не самая дарагая".*

*"Нават і не ведаю, дзе мая прынцэса зможа пашыкаваць на гэтую суму,* — смяецца палачанка **Алена**, ведучы на прагулку **двухгадовую дачку Лесю**. — *Набор для пясочніцы (формачкі, вядро, сіта і г.д.), які ёй вельмі падабаецца, каштуе крыху больш — 40 з лішнім тысяч. Затое хопіць на маленькі набор дзіцячага посуду беларускай вытворчасці. Ляльку ж за гэтыя грошы зможам набыць хіба што кітайскую, а ў кітайскіх цацак, самі ведаеце, якая якасць…".*

"І калі дзяржаве на гэта начхаць, то, як вымушана прызнае нават яе статыстыка, рана ці позна начхаць на патрэбы дзяржавы робіцца і сем'ям, якія выбіраюць сабе іншыя месцы пражывання і жыцця".

*"Мая дачушка толькі 5 дзён назад як нарадзілася, мы нават з імем яшчэ не вызначыліся,* — дзеліцца радасцю малады тата **Андрэй** з Баранавічаў. — *Пакуль жонка з малой яшчэ ў раддоме, я бегаю па крамах і дакупляю рэчы на першы час. На 36 тысяч… дайце падумаць… магу набыць або адны паўзуны, або рукавічкі і каптурык, або нажнічкі і, калі вельмі пашанцуе, застанецца на расчоску".*

*"Калі паставіцца да гэтага павелічэння сапраўды як да "падарунка", які можна патраціць на штосьці не самае неабходнае, але прыемнае, то я купіла б кіло добрага вінаграду — сын яго вельмі любіць,* — нетаропка пералічвае мінчанка **Кацярына**, **маці 2-гадовага Дзімкі.** — *Калі ласавацца, расцягваючы задавальненне, то гэтага яму хопіць дзён на 7—10. Ну, а беручы неабходнае… Грамаў 500—600 добрага мяса, — хоць бы не аб'есціся дзіцяці з такой колькасці (з іроніяй)! Калі пашанцуе, то 2-4 пары ніжняй бялізны можна набыць або 5 пар шкарпэтак на лета, ці 2 кг пральнага парашку – зноў жа, толькі беларускага, астатнія істотна даражэйшыя".*

Мы з дачушкай (ёй неўзабаве споўніцца 1 год і 9 месяцаў) таксама не ўтрымаліся: зазірнулі ў некалькі сталічных дзіцячых крам і падлічылі, на што хопіць шчодра дабаўленых на жыццё 36 тысяч і, не забываемся, яшчэ 140 рублёў. Знаёмцеся са спісам і не кажыце, што пра дзяцей у нас не клапоцяцца:

— 10–17 падгузаў, у залежнасці ад вытворцы;

— 7 маленькіх пачкаў вільготных сурвэтак беларускай вытворчасці (кожная мама ведае, што на прагулцы гэта незаменная рэч),

— 4–8 пластмасавых кубікаў або 1–2 наборы папяровых даміно;

— 1–2 пластмасавыя машынкі беларускай вытворчасці;

— 1 майка,

— 1 пірамідка (расійскай або кітайскай вытворчасці),

— цацачны мабільнік (польскі або кітайскі),

— 3–6 бляшанак мясных кансерваў беларускай вытворчасці,

— 1 пачак малочнай сумесі (у лепшым выпадку) беларускай вытворчасці або 3–4 пачкі кашы (пры гэтым сумесь і каша падыходзяць далёка не ўсім дзецям, а імпартныя аналагі каштуюць у 2–4 разы даражэй),

— 18 маленькіх пачкаў дзіцячага малака,

— набор алоўкаў (12 штук) або фарбы (6 колераў) + тонкі альбом для малявання і г.д.

Да ўсяго вышэйпадлічанага неабходна дадаць толькі адну істотную рэмарку: "майскія" грошы на дзяцей бацькі атрымаюць усё адно толькі ў чэрвені, калі цэны на ўсё ядомае і неядомае падрастуць яшчэ крыху. Як іх, такія імклівыя і непрадка-



### ДА ВЕДАМА

Дапамога на дзяцей ва ўзросце да 3 год з 2010 года ўсталявана ў памеры 100% БПМ — бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва *http://www.president.gov.by/press80895.html#doc.* Маці-адзіночкі, якія выхоўваюць дзіця ва ўзросце да 1,5 года, атрымліваюць дапамогу з надбаўкай у 75%, да 3 гадоў — з надбаўкай 40%, як і некаторыя іншыя катэгорыі бацькоў.

За 2011 гадоў, як сведчыць афіцыйная статыстыка, сярэднямесячныя памеры дапамог на дзяцей да 3 гадоў і старэй павялічыліся на 46,1%, у той час як інфляцыя, што ўсе мы добра памятаем, па некаторых пазіцыях дасягала 300%.

Сёлета памер "дзіцячай" дапамогі павялічаны ўжо ў другі раз, адпаведна з ростам БПМ:

**з 1.01.2012 па 31.01.2012 БПМ быў роўны 574 790 руб.,**

**з 1.02.2012 па 30.04.2012 — 706 880 руб.,**

**з 1.05.2012 па 31.07.2012 — 743 020 руб.**

# ПЛЮС 5 ДОЛАРАЎ



*Усё для дзяцей?*

зальныя, дагнаць бедным дзіцячым дапамогам, якія, як і нашы малышы, толькі “вучацца хадзіць”?

## ВЫЙСЦЕ ЁСЦЬ?

А мо дарэмна мы скардзімся на цяжкасці жыцця? Засталося ўсяго нічога пацярпець, каб бацькам і дзеткам настала суцэльная мілата. І хоць такія абяцанні гучаць штогод, аднак сёлета чыноўнікі як быццам не жартуюць. Законапраект аб змяненні механізму разліку дапамогі па доглядзе дзіцяці да 3 гадоў будзе ўнесены ў Савет Міністраў у маі — лічы, ужо! Прынамсі, гэта абяцаў першы намеснік міністра працы і сацабароны Пётр Грушнік яшчэ ў лютым бягучага года *http://news.tut.by/society/274024.html.*

Для таго каб памер “дзіцячай” дапамогі нарэшце стаў больш нагадваць дапамогу, чым падачку, распрацавана ажно цэлая Нацыянальная праграма дэмаграфічнай бяспекі Рэспублікі Беларусь на 2011—2015 год. Калі сцісла, то памер дапамогі плануецца прывязаць не да БПМ, а да сярэдняй зарплаты па краіне — а яна, калі не хлусіць Белстат, у сакавіку склала амаль што 3,16 млн у працоўных і 3,188 — у рабочых і служачых *http://belstat.gov.by/homep/ru/indicators/pressrel/soob.php.*

*“Я ўжо не ведаю, ці верыць гэтым абяцанням,* — разгублена кажа маладзечанка **Ілона**, якая адна выхоўвае **8-месячную дачку**. — *Раней сцвярджалі, што прывязваць будуць да сярэдняга заробку маці — для мяне гэта было б нявыгадна, бо мой ранейшы афіцыйны заробак складаў менш як мільён рублёў, а як маці-адзіночка я атрымліваю 1,237 млн, з цяперашнім жа павелічэннем будзе ўжо 1,3 млн. А калі прывяжуць да сярэдняга заробку… Не, не веру. Хто дасць кожнай маці па 3 мільёны, з якой бяздоннай кішэні?!”*

Безумоўна, зараз з кустоў выскачаць тыя, хто ўголас пачне нас упікаць — маўляў, няма чаго дармаеднічаць і разлічваць на дзяржаву, самім трэба круціцца, разлічваць на ўласныя сілы і думаць, перш чым нараджаць дзяцей… Яны заўсёды так крычаць: такое адчуванне, што ў гэтых людзей няма і ніколі не было/не будзе маленькіх дзяцей, састарэлых і хворых бацькоў, яны ніколі не хварэюць і, крый Божа, не атрымліваюць інваліднасць. Можа, гэта і ёсць ідэальныя беларусы — я не ведаю. Але мы, бацькі і дзеці, — людзі рэальныя, якім рэальна трэба штодня есці, апранацца, падтрымліваць гігіену і г.д. І калі дзяржаве на гэта начхаць, то, як вымушана прызнае нават яе статыстыка, рана ці позна начхаць на патрэбы дзяржавы робіцца і сем’ям, якія выбіраюць сабе іншыя месцы пражывання і жыцця.

Дай Бог, каб нашы дзеці прызначалі пенсіі тым, хто сёння прызначае ім дапамогі.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# «УЦЁКІ МАЗГОЎ» З БЕЛАРУСІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

**Прычына — нізкія заробкі. «Вядома, „уцечка мазгоў“ назіраецца», — канстатаваў на прэс-канферэнцыі 3 мая галоўны вучоны сакратар Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сяргей Кілін, паведамляе БелаПАН.**

«Зарплаты, якія атрымліваюць маладыя супрацоўнікі, — гэта не зусім правільна, і мы гэта разумеем», — падкрэсліў ён.

Разам з тым Кілін зазначыў, што «яны маюць магчымасць атрымліваць такія ж грошы, што і людзі, якія даўно працуюць у навуцы». «Прыйшоў малады — адразу атрымаў два мільёны рублёў, а далей ён прапрацаваў тры гады, у яго з’явілася сям’я і яму трэба зарабляць большыя грошы.

Мы прапануем: займайся пытаннямі, што тычаць прадуктаў, арыентаваных на экспарт, працуй на рынак, і ў цябе будзе зарплата дастатковай», — патлумачыў галоўны вучоны сакратар НАНБ.

На яго думку, супрацоўнікі, якія даўно працуюць у навуцы, «таксама павінны пераарыентавацца на гэта».

Кілін падкрэсліў, што сярэдні ўзрост вучоных — 49,1 года, хаця «сярэдні ўзрост акадэмікаў — зашкальвае, але акадэмія — маладая: 29% супрацоўнікаў маюць узрост да 33 гадоў».

«У мерапрыемствах па рэфармаванні навукі ставіцца задача па павелічэнні магчымасці зарабляць вялікія грошы навуковым супрацоўнікам, карыстаючыся сучаснымі метадамі аплаты працы», — запэўніў галоўны вучоны сакратар НАНБ.

Як зазначыў прарэктар па навуковай працы БДУ Алег Івашкевіч, знятыя ўсе абмежаванні на аплату працы па гаспадарчых дагаворах. «Заключайце гаспадарчыя дагаворы, афармляйце часовыя навуковыя калектывы (ЧНК) і плаціце людзям», — сказаў ён.

Нагадаем, 2 красавіка быў падпісаны ўказ прэзідэнта, якім здымаецца шэраг абмежаванняў на ўмовы дзейнасці ЧНК у выпадку фінансавання іх працы з пазабюджэтных крыніцаў. ЧНК могуць выконваць навуковыя даследаванні і распрацоўкі для аднаго заказчыка за кошт пазабюджэтных сродкаў па двух і больш дагаворах аднachасова, а наёмным работнікам дазваляецца браць удзел больш чым у двух ЧНК аднaчасова.

# КАМІТЭТ АБАРОНЫ ЖУРНАЛІСТАЎ: БЕЛАРУСЬ У ДЗЯСЯТЦЫ НАЙГОРШЫХ

**Дыктатарскі кантроль над асвятленнем навін з дапамогай прапаганды, гвалту і найноўшых тэхналогій характэрны для 10 краін з самай жорсткай цэнзурай, сярод якіх і Беларусь.**




*Цэнзура, цэнзура і яшчэ раз цэнзура*

Пра гэта гаворыцца ў новай справаздачы Камітэта абароны журналістаў, публікацыя якой прымеркавана да Сусветнага дня свабоды прэсы, які адзначаецца 3 траўня.

Эрытрэя, Паўночная Карэя і Сірыя лідзіруюць у спісе і пацвярджаюць тым самым, што абмежаванні ў гэтых краінах на распаўсюджванне інфармацыі аказваюць прыкметны уплыў на сусветную геапалітычную стабільнасць, гаворыцца ў справаздачы.

“У імя стабільнасці і развіцця палітычныя рэжымы гэтых краін душаць незалежнае асвятленне падзей, узмацняюць прапаганду і выкарыстоўваюць тэхналогію для кантролю за грамадзянамі замест прадастаўлення ім законных правоў, — кажа выканаўчы дырэктар Камітэта абароны журналістаў Джоэль Сайман. — Журналістаў тут разглядаюць як пагрозу, ім часта даводзіцца дорага плаціць за свае рэпартажы. Але паколькі развіццё інтэрнэта і гандлю прывяло да глабалізацыі інфармацыі, то цэнзуру, якая існуе ўнутры адной краіны, адчуваем і ўсе мы”.

У сваёй справаздачы Камітэт абароны журналістаў падрабязна разглядае ўплыў цэнзуры на кожную з краін паасобку і вылучае агульныя тэндэнцыі, у прыватнасці спрэчную легітымнасць кіраўніцтва і нізкія тэмпы эканамічнага развіцця ў краінах з найбольш жорсткай цэнзурай. Паводле даных камітэта, у Эрытрэі дазволена дзейнасць толькі дзяржаўных сродкаў інфармацыі, а міжнародныя СМІ забаронены. У Паўночнай Карэі афіцыйныя крыніцы агенцтва распрацоўваюць кантэнт для мясцовых СМІ, а замежныя журналісты карыстаюцца абмежаваным доступам да інфармацыі і знаходзяцца пад пастаянным назіраннем. Сірыя больш як год назад увяла забарону на незалежнае асвятленне падзей і практыкуе расправы, электронныя напады і адключэнне сродкаў камунікацыі.

Акрамя пералічаных вышэй, у дзясятку краін з найбольш жорсткай цэнзурай увайшлі Іран, Экватарыяльная Гвінея, Узбекістан, Бірма, Саудаўская Аравія, Куба і Беларусь.

Новы рэйтынг, які з'яўляецца абноўленым спісам 2006 года, быў складзены з улікам 15 асноўных паказчыкаў, паводле якіх эксперты Камітэта абароны журналістаў праводзілі ацэнку. Сярод іх блакіраванне вэб-сайтаў, абмежаванні на запіс і распаўсюджванне інфармацыі ў электронным выглядзе, адсутнасць прыватных ці незалежных сродкаў інфармацыі, абмежаванні на перамяшчэнне журналістаў, глушэнне замежных тэлерадыёпраграм і забарона на дзейнасць замежных карэспандэнтаў.

Ва ўсіх краінах са спісу прысутнічаюць, прынамсі, 10 з гэтых параметраў. Акрамя таго, КАЖ разгледзеў сітуацыю ў Азербайджане, Эфіёпіі, Кітаі, Судане, Туркменістане і В'етнаме — краінах з вельмі жорсткай цэнзурай, што патрабуе ўвагі міжнароднай грамадскасці.

Са справаздачай можна азнаёміцца на арабскай, англійскай, французскай, рускай і іспанскай мовах.

Камітэт абароны журналістаў таксама апублікаваў відэа з інфармацыяй аб 10 краінах з найбольш жорсткай цэнзурай і кароткім пералікам існуючых там абмежаванняў.

Зарэгістраваны ў Нью-Ёрку Камітэт абароны журналістаў з'яўляецца незалежнай некамерцыйнай арганізацыяй, створанай для барацьбы за свабоду прэсы ва ўсім свеце.



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 3.05.12
Тыраж 299 экзэмпляраў